# Веcткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamleńni

Сусьветнае сеціва: e-krama.com, pahonia.com
Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 4 (626)
Красавік 2018 г.


# Сьвяткаваньне 100-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР у Нью-Брансўіку, Нью-Джэрзі

У нядзелю, 25 сакавіка 2018 году, у Нью-Брансўіку прайшло сьвяткаваньне стагодзьдзя абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. У гатэлі Гаят-Рыджэнсі адбыліся ўрачыстая акадэмія, банкет і канцэрт, прысьвечаныя гэтай найважнейшай даце беларускай гісторыі.

Перад гэтым у царкве сьв. Маці Божае Жыровіцкае ў Гайлэнд-Парку было праведзена сьвяточнае набажэнства.

Напачатку акадэміі прагучэў амэрыканскі гімн у выкананьні Вольгі Казак-Анлар. Былі зачытаныя прывітаньні ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілла, губэрнатара штату Нью-Джэрзі Філіпа Мэрфі і ад кангрэсмэна Крыстафэра Сьміта. З прывітальным словам выступілі першы амэрыканскі амбасадар у Беларусі Дэвід Сўорц, а таксама намесьнік амбасадара Джон Кунстэдар. Апошні прамаўляў на выдатнай беларускай мове, выказваючы так шмат любові да беларускіх людзей і беларускай зямлі, што кранаў аўдыторыю да сьлёз. Прысутных павіншавалі старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" Віталь Зайка і старшыня Галоўнай управы БАЗА Натальля Федарэнка, якая прадставіла ўсіх арганізатараў імпрэзы.

Перад прысутнымі выступіў кангрэсмэн Фрэнк Пэлоўн, што прадстаўляе акругу, дзе знаходзіцца Нью-Брансўік, у Кангрэсе ЗША. Ён павіншаваў прысутных з нацыянальным сьвятам, распавёў пра сваю працу ў падтрымку інтарэсаў беларускай грамады ў ЗША і згадаў, між іншага, пра беларускія карані сваёй жонкі і сваёй нявесткі.

Затым з прамоваю пра важнасьць і значнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі і пра 100-гадзьдзе абвешчаньня яе незалежнасьці выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён адзначыў пераемнасьць сёнешняга змаганьня за сапраўдную волю і незалежнасьць з тым слаўным чынам 100-гадовай даўніны, які здолелі асягнуць нашыя папярэднікі.

З прывітаньнем ад Партыі КХП-БНФ выступіў яе старшыня Юры Беленькі, які спыніўся да адной з вузлавых падзеяў шляху да незалежнасьці – дасягненьні абвешчаньня незалежнасьці Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе.

Прысутных прывіталі і падаравалі мастацка зроблены герб "Пагоня" госьці зь гораду Ліды – грамадзкія актывісты з партыі БНФ Валеры Мінц і Янак Мікулка.

Затым адбыўся канцэрт, у якім узялі ўдзел Алесь Казак, Валянціна Пархоменка, Яўген Магаліф і Вольга Казак-Анлар, а таксама паэт і бард Сяржук Сокалаў-Воюш. Трыё Казакоў выканалі свае новыя творы.

У фае была адкрыта выстава мастацкіх твораў – карцінаў-партрэтаў Валянціны Якімовіч, пэйзажаў і натурмортаў Алеся Штэрніка і абстрактных патрыятычных кампазыцыяў Юлі Шатэрнік.

Па падліках арганізатараў, у імпрэзе ўзяло ўдзел больш за 250 чалавек.

***Віталь ЗАЙКА, здымак аўтара***



# Сакавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 10 сакавіка 2018 году ў Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў сакавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і павіншаваў з надыходзячым сьвятам. Ён нагадаў, што 9 сакавіка, споўнілася 100 год 2-й Устаўной грамаце, якой абвяшчалася стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі. Затым ён коратка распавёў перадгісторыю і абставіны прыняцьця Акту 25 Сакавіка 1918 году ў Менску.

“У неспрыяльных умовах, калі народ быў падзелены лініяй фронту і Берасьцейскай дамовай, калі на абшары Беларусі ішлі баявыя дзеяньні, панавалі гаспадарчы развал і бальшавіцкі тэрор, беларускія нацыянальныя дзеячы здолелі выказаць памкненьне да незалежнасьці і нават стварыць структуры і перадумовы да руху ўбок сапраўднай незалежнасьці. Менавіта абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі Актам 25 Сакавіка і стварэньне БНР сталі перадумоваю стварэньня БССР, а пазьней – Рэспублікі Беларусь. І менавіта гэты неабвержны, але нязручны цяперашнім уладам факт, дасюль замоўчваецца і абмінаецца сэрвільным прарасейскім рэжымам Лукашэнкі. Нават цяпер, напярэдадні юбілею, калі відавочна востра стаіць пагроза для незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, калі анэксія па крымскім узоры застаецца вельмі імавернай, Лукашэнка і ягоныя памагатыя ня могуць пераадолець паталягічную боязь беларускіх нацыянальных сілаў, нацыянальнай ідэі і нацыянальнага сьвята 25 Сакавіка. Улады не плянуюць ніякіх дзяржаўных імпрэзаў па адзначаньні юбілею, ды гэта і ня дзіва, антыбеларскім сілам пры ўладзе – гэта як для чорта ладан. Але ідэя, увасобленая ў ідэалах Акту 25 Сакавіка, жыве, мацуецца, і натхняе новыя пакаленьні беларускіх людзей”.

Затым перад прысутнымі ў рамках сэмінару пра вучобу ў ЗША выступіла актыўная грамадзкая дзячка ў Нью-Ёрку сп-ня Ганна Шарко. Яна распавяла пра сыстэму двухгадовых каледжаў у Амэрыцы і ў Нью-Ёрку і адзначыла, чаму варта падумаць пра тое, каб пачаць адукацыю ў ЗША менавіта з двухгадовага каледжу, а не з чатырохгадовых. Ганна вучыцца ўжо другі сэмэстар у Боро-Мангэтану Грамадзкім Каледжы, па галоўнай спэцыяльнасьці “камунікацыі” і таксама ходзіць на дадатковыя заняткі па ангельскай мове. Яна распавяла пра выгоды двухгадовых каледжаў, а таксама пра асноўныя моманты, на якія варта зьвярнуць увагу пры паступленьні.

Затым Ганна спынілася на рэчах, якія патрэбныя для паступленьня, пра сыстэму крэдытаў і пра залік крэдытаў, калі ёсьць дыплём або незакончаная вышэйшая адукацыя зь Беларусі. Для ўступнага іспыту па ангельскай мове яна рэкамэндавала карыстацца Duolingo English Test (DET), які значна таньнейшы за TOEFAL. Таксама былі закранутыя пытаньні фінансаваньня і мажлівасьці працы падчас вучобы. Ганна таксама падкрэсьліла важнасьць грамадзкай працы, сяброўства ў клюбах, таварыствах. якія робяць рэзюмэ прывабнейшым і будуюць сыстэму сувязяў для будучых пошукаў працы.

З гутаркай пра гуманітарную адукацыю ў ЗША выступіў госьць з Чыкага Ўладыслаў Аўраменка, які спачатку распавёў трохі пра сябе. Ён спыніўся на агульных прынцыпах амэрыканскай сыстэмы адукацыі ў параўнаньні з эўрапейскай, спаслаўшыся на свой досьвед вучобы ў ЭГУ, Унівэрсытэце Чыкага, Нью Скул сацыяльных стадыяў у Нью-Ёрку і Дыпол Ўнівэрсытэце Чыкага. Прамоўца закрануў сыстэму сталага найму на працу прафэсароў – tenure track position. Потым абодва прамоўцы адказалі на пытаньні.

У канцы прагучэлі аб’явы пра маючыя адбыцца імпрэзы: роварны парад на Мангэтане і сьвяткаваньне ў Нью-Брансўіку, Нью-Джэрзі.

Пасьля прысутныя адзначылі надыходзячае нацыянальнае сьвята 25 Сакавіка пры віне і пачастунках, мелі нагоду калегавацца ў неафіцыйнай атмасфэры, знаёміцца і абменьвацца інфармацыяй.

***Віталь ЗАЙКА***

# Сьвяточная імпрэза на Мангэтане

У Нью-Ёрку 24 сакавіка 2018 году, у Сацыяль-залі на 43-й вуліцы на Мангэтане адзначылі 100-годзьдзе абвешчэньня незалежнасьці БНР. Імпрэзу адкрыў галава Беларускага Інстытуту Амэрыкі Андрэй Асадчы, затым было відэа-віншаваньне Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілла. З віншаваньнем выступіў першы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Сўорц. Са зьместоўнымі прэзэнтацыямі выступілі ганаровыя госьці: прафэсар Ўартбург-каледжу (Аёва) і дырэктар Цэнтру Беларускіх Досьледаў Паўднёва-Заходняга Каледжу (Канзас) д-р Паўліна Сурвілла і прафэсар Інстытуту славістыкі Польскай Акадэміі Навук доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук з Горадні. З прывітаньнямі выступілі таксама заступнік старшыні Рады БНР Вячка Станкевіч і старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” Віталь Зайка; былі зачытаныя прывітаньні, дасланыя ад іншых арганізацыяў.

Сп-ня Ірына Хадарэнка, пісьменьніца і дасьледчыца тэорыі й гісторыі літаратуры, прэзэнтавала свой відэа-праект “Галасы Свабоды / Voices of Freedom”, у якім прагучалі вершы сучасных беларускіх паэтаў на мове арыгіналу ды іх пераклады, зробленыя Верай Рыч на ангельскую мову, у выкананьні англамоўных чытальнікаў. Сп-ня Ганна Шарко правяла лятарэю.

Затым адбыўся канцэрт, на якім выступілі музыка і кампазытар зь Нью-Ёрку, кіраўнік гурта “Літвакус” Зьміцер-Зісл Сьляповіч, які выканаў шэраг нацыянальных і гістарычных музычных твораў, і выступоўцы зь Беларусі: Яўген Сокалаў (гурт “ЗНАrock”) і вядомы рэпэр і кінаактор Вінсэнт-Vinsent.

Беларускімі стравамі частавалі дзьве кухарачкі Вольга Талатынік і Алена Пузач-Талатынік. Працавала выстава “Ідэя БНР у ЗША” і кірмаш беларускіх выданьняў і сувэніраў.

Арганізатарамі сьвяткаваньня былі Беларускі Інстытут Амэрыкі, а таксама Фундацыя імя П. Крачэўскага і Фонд Орса-Романа, якія часткова фінансавалі гэтую імпрэзу.

***Віталь ЗАЙКА***




*Здымак В. Дударава*

# Роварны парад-прабег на Мангэтане

У нядзелю, 11 сакавіка, на Мангэтане адбыўся парад на роварах, прысьвечаны 100-годзьдзю абвешчаньня незалежнасьці БНР. Беларусы Нью-Ёрку і ваколіцаў сабраліся на Таймс-сквэр, адкуль каля 30 чалавек на роварах праехалі па 5-й авэню і пасьля па Брадвэі да Боўлін-Грын-парку. У вышыванай кашулі лідара ехаў з двума мячамі ў руках, як князь Ягайла з Цэнтральнага парку, сп. Алесь Тур. Раварысты зь бел-чырвона-белымі сьцягамі пранесьліся па Мангэтане, выгукаючы лёзунгі “Жыве Беларусь!”, “Long Live Belarus!”, “Belarus – YES! Lukashenka – NO!” Да параду па дарозе далучылася больш удзельнікаў. Сп.сп. Серж Трыгубовіч і Віктар Дудараў здымалі фота і відэа.

Каля флягштоку недалёка ад скульптуры нападаючага быка на Ўол стрыт удзельнікі прабегу сталі паўкругам. Пад сьпевы па-беларуску на флягштоку быў падняты нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг. З кароткімі прамовамі выступілі арганізатарка параду сп-ня Ганна Шарко і старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка.

Цікава, што флягшток, на якім залунаў бел-чырвона-белы сьцяг, мае даўнюю гісторыю. 25 лістапада 1783 году жаўнеры арміі Джорджа Вашынгтона зьнялі зь яго брытанскі сьцяг, які пакінула брытанскае войска, што ў той дзень эвакуявалася зь Нью-Ёрку ў выніку перамогі амэрыканцаў у вайне за незалежнасьць. Дзень 25 лістапада адзначаўся як “Дзень Эвакуацыі” некалі больш урачыста, чым 4 ліпеня, але з часам яго пачало засьціць сьвята Падзякаданьня, і ён паступова страціў сваё значаньне. Цяпер ідуць захады, каб аднавіць веды пра яго і адпаведна назваць месца ля флягштоку.

Па словах гісторыка беларускай грамады ў ЗША сп. Вітаўта Кіпеля падобны беларускі ровары парад праводзіўся напачатку 1990-х гадоў таксама на Мангэтане. Нажаль, падрабязьнейшай інфармацыі пра тую падзею не захавалася.

Надвор’е спрыяла імпрэзе, і пасьля яе ўдзельнікі сабраліся працягнуць прыемнасьць у адной з бліжэйшых рэстарацыяў.

***Віталь ЗАЙКА***



# Гуканьне вясны на беразе Гудзону

Новы год пачынаўся у нашых продкаў вясною зь першага веснавога месяца абрадам Гуканьне вясны, за якім ішлі Вялікдзень, Юр’я, “Пахаваньне стралы” й інш.

Суадносна зь мясцовымі традыцыямі “гукаць” вясну пачыналі зь 1 сакавіка і да першага зялёнага лісточка, у залежнасьці ад рэгіёну, але пасьля Вялікадня ўжо не гукалі. Паколькі з 20 да 25 сакавіка бывае веснавое раўнадзенства, гэты час лічаць нараджэньнем Бога Сонца, і ён бывае найпрыдатнейшы клікаць вясну й яе ўшаноўваць. З глыбокай старажытнасьці людзі вераць у магічнасьць слова, і падчас Гуканьня вясны галоўная дзейсная сіла выяўляецца ў пеpазовах чалавечых галасоў. Абрад гэты мае аграрна-магічныя рысы. Вясну клікалі, бо ад яе залежаў будучы ўраджай і дабрабыт людзей. З поўдня да вечару гучаў гімн вясьне.

Вось і мы, беларусы, якіх лёс закінуў у Нью-Ёрк, ужо каторы год працягваем традыцыі сваіх продкаў, зьбіраемся на маляўнічым узьбярэжжы Гудзону і клічам вясну прыйсьці і прынесьці з сабою “цёплыя дзянёчкі, частыя дажджочкі, зялёную травіцу”. Шматлікім вясьнянкам уласьцівы своеасаблівы прыпеў накшталт перагукваньня: “Гу-у-у!”. Пры гэтым загукальнікі уздымаюць рукі ўгору, нібы зьвяртаючыся да Сусьвету. Таму й атрымала сьвята сваю назву – Гуканьне вясны. Загукальныя песьні зьмяняліся песеньнымі карагодамі й вясёлымі гульнямі з жартамі й пацалункамі, што асабліва падабалася моладзі.

Хоць наляцеў парывісты вецер з дажджом, нас гэта не засмуціла і нават весяліла, бо былі разгарачоныя скокамі й гульнямі. Потым урачыста ўтапілі ў рачных водах ляльку Марэну, якая сымбалізавала сабою злую зіму, хваробы і ўсё нядобрае ў сьвеце. А пасьля былі запрошаныя ў будынак яхт-клюбу, якую арэндавалі для нас Пятро й Алена Рыжыя, і загукальнікі падсілкаваліся традыцыйнымі сьвяту стравамі, якія прыгатавала Алена. Пасьля пачалі скокі пад музыку, на хаду развучвалі новыя для нас танцы. Было вельмі весела. Заставалася толькі паспачуваць тым, хто хацеў да нас прымкнуць, але спалохаўся непагоды. Разьехаліся дахаты ўжо пад вечар.

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***



*Здымак С. Трыгубовіча*

# “Галгатня пра ЗыШыА”

Сьвяткуючы 100 год БНР нельга не адзначаць, што па сваёй сутнасьці (чытайце Ўстаўныя граматы) гэта быў праект роўна сацыялістычны як і нацыянальны. Таму ёсьць поўная лёгіка ў прыраўнаньні БНР да БССР, што мы і назіраем сярод уладных элітаў Беларусі. Іншыя былі арыентыры і палітычныя вэктары, але ідэалягічная аснова была абсалютова аднолькавая, што сярод адных айцоў заснавальнікаў, што сярод другіх – гэта сацыялізм, які па любому заўсёды заканчваецца камунізмам. А ідэалягічная аснова – гэта тое, што фармуе дзяржаву і яе функцыянаваньне, гэта, так бы мовіць, і ёсьць самае галоўнае. Дэкляраваць можна што заўгодна, але ў выніку значэньне мае толькі тое, якімі сродкамі мы карыстаемся для дасягненьня мэты. Усё астатняе – гэта створаныя ў межах ідэалягічнага супрацьстаяньня міты пра БНР. Чаго варты, напрыклад, пераклад назвы БНР на ангельскую мову як Belarusian Democratic Republic, што пры аналягічнай, адвольнай трактоўцы ў іншай палітычнай кан'юнктуры, аднолькава пасьпяхова магла б стаць Belarusian People's/Socialist Republic. Фактычна гэтая палітычная кан'юнктура на Захадзе, у рэчаіснасьці якой па сёньняшні дзень дзейнічае аскепак БНР, я думаю, ужо даўно сасьпела якраз для такой трактоўкі назвы БНР...




Сучасная Рэспубліка Беларусь, нашмат больш праварапіталістычная за шмат якія дзяржавы Эўрапейскага Саюзу, то ў сваёй ідэалёгіі ўсё ж абапіраецца на савецкую спадчыну. Лепш так, чым наадварот, фасад – сацыялістычны, а мэханізмы рынычныя, хоць у РБ яны, канешне, далёкія ад рынычных. Але так ці інакш, безумоўна, што гэта найменш сацыялістычны праект ва ўсёй сучаснай гісторыі Беларусі.

Якой была б Беларусь дэмакратычная? Ведаючы гісторыю – хутчэй за ўсё сацыялістычнай. То бок яна арыентавалася б ужо не на Маскву, а на Брусэль, але рэалізавала б усе тыя сацыялістычныя пастуляты, пераінжынэраваньня грамадзтва ў новым ключы-трактоўцы культурніцкага марксізму, якія цяпер укараняюцца ва ўсіх краінах Эўрапейскага Саюзу. Зьмяніцца мог бы зноў жа выключна геаграфічны вэктар, адкуль паступалі б новыя ўказаньні, але ідэалягічная аснова засталася б папярэдняй. І хай перастануць марыць тыя, хто думаюць інакш. Паглядзіце на сёньняшнія дэмакратычныя эліты Беларусі, што яны гавораць, як яны думаюць, на што яны арыентуюцца.

У якасьці трохі аддаленай сэнтэнцыі, працытую Бэнджаміна Франкліна, аднаго з заснавальнікаў ЗША, таго што на 100 даляравай купюры. “Дэмакратыя – гэта два ваўкі і малая авечка, якія галасуюць за тое, што зьесьці на абед. Рэспубліканская свабода – гэта добра ўзброеная авечка, якая бароніць сябе ад выніку такога галасаваньня.” Дык вось у такой Беларусі мы з вамі наўрад ці некалі будзем жыць, прынамсі пакуль на гэта не заносіцца. Наш шлях – дэмакратыя, сацыялізм, камунізм. Сёлета можна разам з уладамі сьвяткаваць БНР, а 1 студзеня 2019 году, спакойна разам адзначыць БССР. Усё лягічна, усё заканамерна.

***Віталь ВОРАНАЎ***

## Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðààíüí³:

З. Джум ....................120
А. Аверын ....................60
А. Генюш ....................60
А. Голубева ....................60
А. Голубеў ....................60
А. Дамастой ....................60
М. Дамастой ....................60
М. Клакоцкі ....................60
А. Круковіч ....................60
Т. Надзейка ....................60
Э. Панамарэнка ....................60
А. Панфілаў ....................60
В. Петрушэнка ....................60
З. Сілко ....................60
М. Тарановіч ....................60
А. Тоўсьцік ....................60
І. Урбановіч ....................60
А. Шоцік ....................60
А. Яфімава ....................60

**Усім шчыры дзякуй!**

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца ў суботу **14-га красавіка 2018 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”** *Viktar Yedzinovich.*

## Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

А. Аверын ....................30
В. Галянкова ....................30
А. Генюш ....................30
А. Дамастой ....................30
В. Зайка ....................30
А. Круковіч ....................30
Т. Надзейка ....................30
В. Петрушэнка ....................30
М. Саўчанка ....................30
Д. Сямёнаў ....................30
М. Тарановіч ....................30
А. Тоўсьцік ....................30
І. Урбановіч ....................30
А. Шоцік ....................30
В. Юшчык ....................30
А. Яфімава ....................30

**Шчыры дзякуй!**

*Паважаныя **К. Буяр, А. Якубенка,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*